● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

27 снежня 1996 г. пятніца, № 297 (23100)




# ЗВЯЗДА

## У АДЗІНАЙ КУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ НЕ ТОЛЬКІ МУЗЫКАНТЫ, АЛЕ І ПАЛІТЫКІ

**Папулярнага расійскага кампазітара Андрэя Пятрова, які падарыў мінчанам напярэдадні Новага года аўтарскі канцэрт, 24 снежня ў сваёй рэзідэнцыі прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.**

У сустрэчы ўдзельнічалі таксама кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг і старшыня Беларускага саюза кампазітараў Ігар Лучанок, якія мелі самыя непасрэдныя адносіны да ажыццяўлення на сталічнай філарманічнай сцэне сумеснай расійска-беларускай культурнай акцыі.

Прэзідэнт падтрымаў ідэю правядзення своеасаблівага канцэрта дружбы ў Санкт-Пецярбургу, у якім разам з расійскімі выканаўцамі прыняў бы ўдзел і Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Дарэчы, у гутарцы з Аляксандрам Лукашэнкам Андрэй Пятроў вельмі высока ацаніў прафесіянальны ўзровень музыкантаў аркестра Міхаіла Фінберга. Прычым, ён выказаў не толькі сваю думку, але і думку большасці расійскіх дзеячаў культуры, назваўшы гэты аркестр лепшым з такіх калектываў у СНД.

У інтэрв'ю журналістам пасля сустрэчы з Прэзідэнтам Андрэй Пятроў прызнаўся, што, прыязджаючы ў Беларусь, ён заўсёды адчувае асаблівыя пачуцці. Кампазітар лічыць, што дзеячы культуры ідуць наперадзе палітыкаў у аднаўленні сувязей, што існавалі ў часы СССР, сведчаннем чаго служаць розныя сумесныя акцыі.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ПЛАНЫ НА БУДУЧЫНЮ ЎРАД ВЫРАШЫЎ ПАДКАРЭКЦІРАВАЦЬ

**Па многіх пытаннях, вынесеных для абмеркавання на чарговае пасяджэнне калегіі Кабінета Міністраў 24 снежня, так і не былі прыняты канчатковыя рашэнні.**

Але, бадай, больш за ўсё прэтэнзій было ў прысутных як да самой Праграмы раздзяржаўлення і прыватызацыі ў 1997 годзе дзяржаўных аб'ектаў, што знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, так і да пераліку прадпрыемстваў, прапанаваных поўнасцю або часткова для прыватызацыі за імянныя чэкі «Маёмасць». Як адзначыў віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, і ў гэтым годзе работа па змене ўласнасці прадпрыемстваў праводзілася на нізкім узроўні: з прадугледжаных 536 па выніках года будзе рэфарміравана толькі каля ста.

На дапрацоўку адпраўлены і праект пастановы ўрада аб пастаўках у новым годзе айчынным і замежным спажыўцам мінеральных угнаенняў. Гэты дакумент, на думку членаў калегіі, пакуль што не поўнасцю ўлічвае інтарэсы хлебаробаў рэспублікі. Як сведчыць статыстыка, апошнім часам амаль у тры разы скарацілася ўнясенне ў глебу мінеральных тукаў, што, безумоўна, адбіваецца на ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур.

**БЕЛТА.**

## МІНІСТЭРСТВУ ФІНАНСАЎ ПРАПАНАВАЛІ ВЫДЗЕЛІЦЬ СРОДКІ ДЛЯ ДАТАЦЫІ НА ХАРЧАВАННЕ ШКОЛЬНІКАЎ

**Выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Беларусі Сяргей Лінг накіраваў у Міністэрства фінансаў ліст з прапановай выдзеліць з дзяржбюджэту датацыі на харчаванне навучэнцаў агульнаадукацыйных школ у гэтым навучальным годзе.**

На думку спецыялістаў, датацыя на кожнага навучэнца павінна скласці 2 працэнты мінімальнай заработнай платы ў дзень. Выдзеленая сума дазволіць павялічыць колькасць дзяцей, якія змогуць харчавацца ў школе. Сёння самае сціплае школьнае снеданне абыходзіцца ў 5—10 тысяч рублёў.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

## «ДЗЕДА МАРОЗА ВЫКЛІКАЛІ? ПРА ЦАНУ МЫ ВАС ПАПЯРЭДЖВАЛІ!»

**Тэлефоны для даведак і выклікаў мы падказваць не будзем, бо гэта ўжо рэклама. Акрамя таго, што датычыцца мінскіх Дзядоў Марозаў, то працуюць яны толькі ў межах сталіцы. І болей таго — вельмі неахвотна едуць на ўскраіны.**

Таму — толькі пра цэны. Дык вось... Выклік Дзеда Мароза (а разам з ім — і Снягуркі, і нават Бабы-Ягі), ва ўсе дні, акрамя 31 снежня, каштуе 110 тысяч рублёў. Дзеткам праспяваюць адну-дзве песенькі, дадуць патрымацца за бараду, уручаць ваш, бацькоўскі, калі вы гэтага пажадаеце, падарунак. Раскажуць адзін-два анекдоты. На большае не разлічвайце, бо ўся працэдура па часе займае 15 хвілін. Не болей.

31 снежня Дзед Мароз і яго світа абыдуцца жадаючым амаль што ў паўтара раза даражэй — 150 тысяч.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



## Ударылі маразы. На прадпрыемствах жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўведзена кругласутачнае дзяжурства

**Канчаецца цяжкі высакосны год. Як і прадказвалі «ўсёведныя» астролагі, ён быў цяжкім не толькі для нашай эканомікі. На жаль, прырода таксама не пасціла нас спакойнай умеранасцю. У сухі ліпень і жнівень гарэлі тарфянікі, лясы і дачы. Рэзкія халады ў канцы снежня прынеслі сур'ёзны галаўны боль жыллёва-камунальным службам краіны. Ці будзе цёпла ў нашых дамах? На гэтае пытанне адказвае начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Мінжылкамунгаса Беларусі Станіслаў ДЗЕМЯШКЕВІЧ.**

— Адмоўная тэмпература ў нашай краіне, якая разлічвалася пры будаўніцтве жылых дамоў, не павінна апускацца ніжэй чым 25° марозу. Але ў апошнія гады надвор'е дыктуе свае ўмовы. Вось і сёння сіноптыкі нам абяцаюць маразы аж да мінус 30 градусаў па Цэльсію.

***— Ці значыць гэта, што ў гэтую зіму нам прыйдзецца трохі памерзнуць?***

— Сапраўды, на ўсіх крыніцах цяпла, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці, тэмпература цепланосьбітаў знізжана на 20 працэнтаў. У выніку тэмпература ў кватэрах не падымаецца вышэй 14, а часам і 10 градусаў цяпла. Сёння сутачны расход паліва павялічыўся ў параўнанні з лістападам у два разы.

***— У якіх рэгіёнах паліва крытычна не хапае?***

— У такіх раённых цэнтрах, як Лагойск, Слуцк, Вілейка, Пінск і іншых паліва для ацяплення жылля хопіць толькі на 3-4 сутак. Таму мясцовыя выканкомы, Мінжылкамгас і ўрад рэспублікі тэрмінова прымаюць меры па адшуканню сродкаў для закупкі паліва. Для рэгіёнаў, якім паліва вельмі неабходна, урад выдзяляе яго з дзяржрэзерву.

***— Чаму, на вашу думку, узніклі перабоі ў пастаўках паліва?***

— На жаль, не ў патрэбных аб'ёмах паступае нафта на Наваполацкі і Мазырскі заводы. Яны ў сваю чаргу не могуць выдзяляць прадукты перапрацоўкі нафты нашым прадпрыемствам.

***— Як працуюць у такіх умовах рамонтныя службы жылкамгаса?***

— Пры тэмпературы мінус 15 і ніжэй на прадпрыемствах жыллёва-камунальнай гаспадаркі арганізавана кругласутачнае дзяжурства. Аварыйныя брыгады знаходзяцца ў гэты час у гатоўнасці № 1.

У сувязі з існуючым становішчам мы хацелі б папрасіць канцэрн «Нафтапрадукт» экстранна адправіць паліва без перадаплаты гарадам, у якіх яго асабліва не хапае.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ЭКСКЛЮЗІЎ*

## Новы Генеральны пракурор мае намер правесці шэраг структурных рэформаў

**Як вядома, нядаўна Прэзідэнт прызначыў новага Генеральнага пракурора. Гэтую высокую і адказную пасаду заняў Алег БАЖЭЛКА, які раней працаваў пракурорам Магілёўскай вобласці.**

**Прапануем вашай увазе адно з першых інтэрв'ю Алега Аляксандравіча на новай пасадзе.**

***— Як Вы ацэньваеце работу органаў пракуратуры ў адыходзячым годзе?***

— Вынікі работы пракуратуры будуць падведзены на пасяджэнні пашыранай калегіі ў студзені наступнага года. Нагляд за выкананнем законаў органамі папярэдняга следства і дазнання, на маю думку, быў аслаблены. Некаторыя пракуроры не праяўлялі прынцыповасці, рашучасці ў навядзенні парадку. Таму Прэзідэнтам пастаўлена задача, з улікам меркавання, выказанага народам на рэферэндуме, навесці парадак у нашай дзяржаве, і мы зробім усё, што ад нас залежыць.

***— Прэзідэнт неаднаразова папракаў кіраўніцтва пракуратуры, што не змагаецца належным чынам з карупцыяй і шэраг «карупцыйных» спраў не даведзены да лагічнага канца. Вы ўжо азнаёміліся з гэтымі справамі? Колькі іх?***

— У вытворчасці следчых органаў унутраных спраў і пракуратуры сапраўды ёсць шмат складаных і аб'ёмных спраў. І пры іх расследаванні нямала ўпушчэнняў і недахопаў. Тут папрокі Прэзідэнта справядлівыя. Аднак я асабіста за кароткі час знаходжання на пасадзе Генеральнага пракурора не паспеў яшчэ азнаёміцца з усёй гэтай «спадчынай». Мяркую, што на працягу некалькіх месяцаў далейшы лёс усіх гэтых спраў нам удасца вырашыць. Калі якія-небудзь «карупцыйныя» справы былі незаконна спынены, я гарантую, што справядлівасць будзе адноўлена.

***— Ці чакаюць у бліжэйшы час органы пракуратуры якія-небудзь структурныя і кадравыя змены?***

— Кадравыя змены ўжо праводзяцца. Днямі былі прызначаны тры новыя намеснікі Генеральнага пракурора. Ранейшыя намеснікі Генпракурора пайшлі на пенсію па дасягненню адпаведнага ўзросту. У далейшым на кіруючыя пасады ў органах пракуратуры будуць вылучацца найбольш ініцыятыўныя і высокапрафесіянальныя супрацоўнікі.

Структурныя змены таксама чакаюцца. Канкрэтна пакуль не магу нічога сказаць. Хачу толькі адзначыць, што ў нас вельмі многа розных спецыялізаваных пракуратур: прыродаахоўная, ваенная і г. д. Падобнае дзяленне, лічу, не зусім апраўдана. Таму будуць выпрацаваны падыходы па такому структурнаму пераўтварэнню, каб павысіць эфектыўнасць работы органаў пракуратуры. Будзем ініцыіраваць унясенне зменаў у Закон «Аб пракуратуры», каб пашырыць яе правы і паўнамоцтвы.

**Гутарыў Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## НАДВОР`Е

**Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродне — 16—18, Брэсце, Гомелі — 17—19, Мінску — 18—20, Магілёве, Віцебску — 19—21 градус марозу.**

**У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, у паўночных раёнах невялікі снег. Тэмпература ўначы — 23—28, месцамі да 30—32, удзень — 17—22, па поўначы ўначы — 18—23, удзень — 12—17 градусаў марозу.**

## МАРАЗЫ ПАСТАВІЛІ «НА ПРЫКОЛ» ГРАМАДСКІ АЎТАТРАНСПАРТ

**У панядзелак у сталіцы з-за імклівага падзення тэмпературы паветра не выйшлі на лініі каля 340 аўтобусаў, або 44,3 працэнта ўсяго аўтамабільнага парка Мінска.**

Зрэшты, праблема гэта не новая — аб катастрафічным стане грамадскага пасажырскага транспарту пісалася шмат. Як вядома, большасць аўтобусаў (ды і не толькі іх), што бегаюць па вуліцах нашых гарадоў, — гэта састарэлыя машыны, якія даўно пара спісваць. Маразы, што ўпершыню з пачатку зімы праявілі свой «нораў», толькі значна абвострылі і без таго незайздроснае становішча транспартнікаў. Зношаныя «Ікарусы» не заводзяцца, нярэдка скрануць іх з месца можна толькі з дапамогай цягачоў, не хапае спецыяльнага (т. зв. зімовага, ці арктычнага) паліва, якое не губляе сваіх якасцей пры нізкіх тэмпературах паветра. Дарэчы, маразы прынеслі і яшчэ адну непрыемнасць — як вядома, пры вялікай мінусавой тэмпературы ўзрастае і расход паліва. Між тым, яго зараз ніколі не бывае ў дастатку, паліва ідзе літаральна «з колаў». У такой сітуацыі цярпяць не толькі пасажыры (якіх у панядзелак раніцай было шмат літаральна на кожным прыпынку), але і самі вадзіцелі. Як стала вядома, яны нават гатовы звяртацца ў прафсаюз з-за дрэнных умоў працы, калі пры спробах завесці аўтобусу рукі прымярзаюць да халодных рухавікоў машын. Ніягледзячы на цяжкасці, як запэўніў у вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, робіцца ўсё магчымае, каб людзі не адчувалі няўручнасцей. У прыватнасці, у сталіцы на час абвастрэння праблемы з транспартам будуць кінуты ў «бой» 50 рэзервовых тралейбусаў і 10 трамваяў, у метрапалітэне будзе павялічана скорасць цягнікоў і зменшаны інтэрвал паміж іх прыходам-адыходам на станцыі. Акрамя таго, плануецца, што ў выпадку неабходнасці аўтобусы будуць часткова здымацца з тых ліній, дзе забеспячэнне перавозак ад гэтага не пацерпіць, і перакідвацца ў тыя мікраёны, дзе няма дублявання праз метро, тралейбусы і трамваі.

Як зазначылі спецыялісты, становішча нармалізуецца, калі тэмпература паветра павысіцца хаця б да —15°С. Дарэчы, ад зімовага надвор'я найбольш пацярпела сталіца. Паводле даных Міністэрства транспарту і камунікацый, у астатніх гарадах абстаноўка з транспартам значна лепшая. У адрозненне ад Мінска, дзе на лініі не выйшла амаль палова аўтобуснага парка, у абласных цэнтрах гэтая лічба не перавышае 20 працэнтаў. Асноўная прычына такога становішча ўсё тая ж — адсутнасць зімовага паліва і непрыдатнасць «Ікарусаў» да нашага клімату. Адзіным выключэннем, бадай, з'яўляецца толькі Салігорск, дзе «на прыколе» стаіць амаль трэць аўтобусаў. Праўда, там прычына зусім іншая — поўная адсутнасць і дызельнага паліва, і бензіну, прычым звычайных, не гаворачы пра зімовыя аналагі. Зараз і мясцовым кіраўніцтвам, і міністэрствам робіцца пэўныя захады, каб як мага хутчэй нармалізаваць сітуацыю ў Салігорску, забяспечыць яго палівам. Сталіцы ж, напэўна, пасля прынятых мераў застаецца толькі чакаць, пакуль тэмпература за акном хоць крыху не павысіцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

## Аб выбранні Савета Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У адпаведнасці з артыкулам 96 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулам 17 Часовага рэгламенту для арганізацыі работы Палаты прадстаўнікоў, яе камісій і дэпутатаў, папярэдняга разгляду і падрыхтоўкі пытанняў, якія адносяцца да ведання Палаты прадстаўнікоў, выбраць Савет Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з 14 дэпутатаў:

**Малафееў** Анатоль Аляксандравіч, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — Старшыня Савета.

**Канаплёў** Уладзімір Мікалаевіч, намеснік Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Кучынскі** Віктар Францавіч, начальнік Сакратарыята Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Малумаў** Юрый Георгіевіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству.

**Ягораў** Уладзімір Дзям'янавіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы.

**Лііўшыц** Сямён Барысавіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі.

**Красуцкі** Анатоль Віктаравіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту.

**Кручкоў** Валянцін Пятровіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню.

**Зінчанка** Аляксандр Мікалаевіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах.

**Куцко** Мікалай Васільевіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях.

**Плецюхоў** Уладзімір Анесціевіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

**Гаварушкін** Станіслаў Мікалаевіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту.

**Кулакоўскі** Юрый Аляксандравіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах.

**Рачкоў** Леанід Уласавіч, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

17 снежня 1996 г., г. Мінск. № 16-П/I

## Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі ў наступным саставе:

Старшыня камісіі
**Ліўшыц** Сямён Барысавіч
Члены камісіі
**Астапчанка** Юрый Леанідавіч,
**Бекіш** Мікалай Іосіфавіч,
**Бруцкі** Віктар Паўлавіч,
**Вараніцкі** Рыгор Гаўрылавіч,
**Гукаў** Іван Маркелавіч,
**Калугін** Пётр Аляксеевіч,
**Койда** Анатоль Якаўлевіч,
**Міхадзюк** Віктар Аркадзьевіч,
**Палачанін** Іосіф Мікалаевіч,
**Цюцюноў** Анатоль Дзмітрыевіч,
**Хрол** Васіль Пятровіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 19-П/I

## Аб выбранні старшынь пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству дэпутата **Малумава** Юрыя Георгіевіча.

2. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы дэпутата **Ягорава** Уладзіміра Дзям'янавіча.

3. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі дэпутата **Ліўшыца** Сямёна Барысавіча.

4. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту дэпутата **Красуцкага** Анатоля Віктаравіча.

5. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню дэпутата **Кручкова** Валянціна Пятровіча.

6. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах дэпутата **Зінчанку** Аляксандра Мікалаевіча.

7. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях дэпутата **Куцко** Мікалая Васільевіча.

8. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу дэпутата **Плецюхова** Уладзіміра Анесціевіча.

9. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту дэпутата **Гаварушкіна** Станіслава Мікалаевіча.

10. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах дэпутата **Кулакоўскага** Юрыя Аляксандравіча.

11. Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД дэпутата **Рачкова** Леаніда Уласавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

17 снежня 1996 г., г. Мінск.
№ 15-П/I

## Аб утварэнні пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Утварыць у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь наступныя пастаянныя камісіі:

Камісія па заканадаўству;
Камісія па нацыянальнай бяспецы;
Камісія па пытаннях эканомікі;
Камісія па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту;
Камісія па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню;
Камісія па бюджэту і фінансах;
Камісія па аграрных пытаннях;
Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу;
Камісія па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту;
Камісія па правах чалавека і нацыянальных адносінах;
Камісія па міжнародных справах і сувязях з СНД.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

17 снежня 1996 г., г. Мінск.
№ 14-П/I

## Аб скліканні другой нечарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць мэтазгодным склікаць другую нечарговую сесію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 9 студзеня 1997 года.

2. Зацвердзіць парадак дня другой нечарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

3. Прасіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выдаць Указ аб скліканні другой нечарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

20 снежня 1996 г., г. Мінск.
№ 61-П/I.

***Дадатак да Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1996 года***

### Парадак дня другой нечарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год».

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах**

2. Аб праекце Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1995 год».

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах**

3. Аб праекце Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб прадстаўніцтве дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у дэлегацыях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у Міжпарламенцкай асамблеі СНД, Міжпарламенцкім камітэце Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі і Расійскай Федэрацыі, Парламенцкім сходзе Супольніцтва Расіі і Беларусі, Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД**

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прызнанні страціўшымі сілу некаторых нормаў пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту**

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб упаўнаважаным па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах**

6. Праект Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах**

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб натарыяце».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству**

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі**

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Сакратарыяце парламента — Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству, Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту**

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб радыяцыйнай бяспецы».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню**

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы**

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы**

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы**

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы**

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, якія не ўвайшлі ў састаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству,**

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту**

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статыстыцы».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах**

17. Праект Лясного кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню**

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб насенні».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях**

19. Аб Дэкрэце Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту**

20. Аб Дэкрэце Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту**

21. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

**Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД**

22. Кадравыя пытанні.

## Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах у наступным саставе:

Старшыня камісіі
**Зінчанка** Аляксандр Мікалаевіч
Члены камісіі
**Блюднік** Антон Дзянісавіч,
**Зайцаў** Павел Карпавіч,
**Кругавы** Валерый Кадашавіч,
**Прохарчык** Сяргей Мікалаевіч,
**Сечка** Леанід Ніканоравіч,
**Якабсон** Аляксандр Серафімавіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

18 снежня 1996 г., г. Мінск.
№ 22-П/I

## Аб праекце Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць у першым чытанні праект Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

2. Накіраваць указаны праект Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Савету рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, ураду Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь, Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь.

Заўвагі і прапановы па ўказанаму законапраекту накіроўваюцца ў Камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству.

3. Даручыць Камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству дапрацаваць праект Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь з улікам заўваг і прадставіць яго на разгляд другой чарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у другім чытанні.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

19 снежня 1996 г., г. Мінск. № 43-П/I

## Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі»

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць у першым чытанні праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі».

2. Даручыць Пастаяннай Камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы дапрацаваць праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі» з улікам заўваг і прапаноў, выказаных дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, і ўнесці яго на разгляд сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у другім чытанні.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

19 снежня 1996 г., г. Мінск. № 50-П/I

## Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах у наступным саставе:

Старшыня камісіі
**Кулакоўскі** Юрый Аляксандравіч
Члены камісіі
**Аляксеенка** Генадзь Паўлавіч,
**Анікееў** Міхаіл Міхайлавіч,
**Бабкоў** Анатоль Канстанцінавіч,
**Валжанкоў** Рыгор Мікалаевіч,
**Катляроў** Ігар Васільевіч,
**Ліпкін** Валерый Фёдаравіч,
**Малахоўскі** Анатоль Ягоравіч,
**Свірыд** Аляксандр Уладзіміравіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 26-П/I

## У зімовы час аўтамабіль патрабуе паліва больш

**Добры дзень, «Звязда»! Паколькі я працую вадзіцелем, хацеў бы даведацца, ці існуюць нарматыўныя палажэнні аб расходах паліва на транспарце ў зімовы час. Калі ўстанаўліваюцца і як залежаць ад тэмпературы паветра зімой такія нормы?**

**Мікалай В.**, *Гродзенская вобласць.*

Як паведамілі нам ва ўпраўленні навукі, тэхнікі і інвестыцый Міністэрства транспарту і камунікацый, існуе спецыяльны даведнік па нормах расходу паліва, змазачных матэрыялаў на аўтатранспарце, якія з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх уладальнікаў транспартных сродкаў у Рэспубліцы Беларусь. Гэты даведнік, дарэчы, павінны мець усе міністэрствы, арганізацыі, якія маюць аўтатранспарт, а таксама непасрэдна аўтапрадпрыемствы. Згодна з прыведзенымі там данымі, нормы расходу паліва на аўтатранспарце ў зімовы час павялічваюцца да 10 працэнтаў. Падставай для іх увядзення можа служыць устойлівая мінусавая тэмпература паветра на працягу пяці дзён запар, прычым норму (3,5 або 10 працэнтаў) вызначае кіраўнік прадпрыемства. Звычайна тэрміны пераходу на зімовы расход паліва ўкладваюцца ў прамежак часу ад 1 лістапада да 31 сакавіка, але прырода можа ўносіць свае карэктывы. Расход паліва ў зімовы час залежыць таксама ад стану транспартнага сродку: калі новаму аўтамабілю хопіць павелічэння расходаў паліва на 3 працэнты, дык «ветэрану» спатрэбіцца ўсе 10 працэнтаў. Акрамя таго, пры рабоце ў цяжкіх умовах (надзвычай снежная зіма, напрыклад) на працягу года на тэрмін не больш аднаго месяца нормы могуць быць павялічаны да 35 працэнтаў. Зразумела, многае залежыць і ад маркі аўтамабіля: калі «ГАЗ-52» расходуе на 100 кіламетраў 22 літры бензіну, то пры павелічэнні нормаў на 10 працэнтаў яму спатрэбіцца ўжо 24,2 літра. У той жа час для «ЗІЛ-130», якому на 100 кіламетраў прабегу неабходны 31 літр паліва, гэтая новая норма складзе ўжо 34,1 літра.

## Любоў да хлеба шкоды не прынясе

***Дарагі «Пытальнік»! Мая дачка катэгарычна адмаўляецца есці хлеб, а я настолькі да яго прывыкла, што гатова есці нават хлеб з хлебам. Падкажыце, калі ласка, чым для нас абедзвюх гэта можа скончыцца?***

**В. ЮРЭВІЧ,** *Петрыкаўскі раён.*

Хлеб есці трэба абавязкова, без яго проста немагчыма ўявіць сабе рацыён здаровага чалавека. Хлеб — гэта істотная крыніца вітамінаў групы В. Ён таксама служыць і штодзённым пастаўшчыком расліннай клятчаткі. Акрамя таго, у ім ёсць усе неабходныя для арганізма рэчывы, а іменна: калій, кальцый, магній, натрый, фосфар, жалеза. Гэта высокакаларыйны прадукт.

Каларыйнасць пшанічнага хлеба крыху вышэйшая, чым жытняга. 100 г жытняга хлеба ўтрымліваюць 190 Ккал, а 100 г пшанічнага хлеба з мукі вышэйшага гатунку — 233 Ккал. Каларыйнасць здобы яшчэ большая: 100 г — 279 Ккал.

А вось на пытанне, колькі хлеба можна з'ядаць за дзень, адназначна адказаць нельга. Пры разнастайным харчаванні, якое ўключае прадукты як расліннага, так і жывёльнага паходжання, цалкам дастаткова з'ядаць прыкладна 300—400 г хлеба. Поўнаму ж чалавеку ўрач можа параіць скараціць спажыванне хлеба ў рацыёне да 100—150 г у дзень. Аднак тым, хто хоча пахудзець, не варта спяшацца поўнасцю адмаўляцца ад хлеба. У гэтым выпадку ім давядзецца паклапаціцца аб тым, каб арганізм атрымліваў у дастатковай колькасці з іншых прадуктаў усе тыя карысныя рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў хлебе. Лепш без шкоды для здароўя абмежаваць яго спажыванне 2-3 лустачкамі ў дзень (пераважна жытняга), а адмовіцца, у першую чаргу, трэба ад прысмакаў — цукерак, піроўжных, тартоў і варэння.

## Кожны дзень «пад стрэсам»

***Цяпер усе навокал скардзяцца на тое, што жывуць у стане пастаяннага нервовага стрэсу. Ці не мог бы «Пытальнік» падказаць, як увогуле можна вызначыць, перажываю я стрэс ці не.***

**Б. ПРОХАРАЎ,** *г. Лагойск.*

Англійскае слова «стрэс» абазначае «націск», «напружанне». Распазнаць яго можна па наступнай сукупнасці сімптомаў, якія ў розным наборы і спалучэнні звычайна сведчаць аб набліжэнні нервовага зрыву: пастаяннае адчуванне стомленасці, прычыны якой нельга растлумачыць, хранічны галаўны боль, расстройства стрававання, перыядычны боль у спіне, раздражняльнасць, рэзкая змена настрою, дэпрэсія, абвостраная ахоўная рэакцыя, адчуванне таго, што ўсе стараюцца вас пакрыўдзіць, злоўжыванне курэннем і спіртным, перасыпанне, зніжэнне фізічнай актыўнасці, узрастанне мускульнай напружанасці пры самых нязначных нагрузках, забыўлівасць, імкненне ўсё разглядаць з негатыўнага пункту гледжання, звышадчувальнасць да крытыкі, страта самапавагі. Трэба адзначыць, што гэта толькі асноўныя сімптомы. Сабраць іх «поўны букет» дадзена, на шчасце, не кожнаму, але не варта занадта суцяшаць сябе, калі вы выразна бачыце ў сябе толькі некаторыя з вышэйпералічаных асабістых рысаў і праяў. Усведамленне наяўнасці праблемы — першы крок да яе лячэння.

# ПЫТАЛЬНІК

## Шторы на вокнах — пагроза здароўю

***Паважаны «Пытальнік»! Падкажы, калі ласка, як уплывае на здароўе тое, што вокны ў доме ўвесь час зашторaныя? Мае сябры кажуць мне, што гэта шкодна. Але скажыце, чаму?***

**Л. ДЗМІТРЫЕВА,** *г. Ваўкавыск.*

Вашы сябры маюць рацыю. Вучонымі было вызначана, што сонечныя прамяні адыгрываюць важную ролю ў рэгуляванні важнейшых жыццёвых функцый арганізма, такіх, як абмен рэчываў, дыханне, кровазварот, сінтэз вітамінаў, работу эндакрынных залоз і крыватворных органаў. Таму пры працяглай недастатковасці асвятлення ў чалавека развіваецца так званае сонечнае галаданне, г. зн. у выніку аслаблення засцерагальных сіл арганізма парушаецца абмен, што можа прывесці да ўзнікнення розных захворванняў, напрыклад авітамінозу, рахіту і г. д. Акрамя таго, сонечнае святло ўздзейнічае танізуючым чынам на арганізм, выклікаючы ў чалавека станоўчыя эмоцыі. Гэта значыць, што прамяні сонца павінны праз светлавыя праёмы трапляюць у кожны жылы пакой у любы час года. Не выпадкова ж у народзе кажуць, што ў месцы, куды часта заглядвае сонца, рэдка заглядвае ўрач.

Вельмі карысна будзе ведаць і тое, што тонкі цюль на вокнах затрымлівае да 20 працэнтаў святла, якое падае на яго, а чысты цюль з узорам — нават да 35 працэнтаў. Цяжкімі, тоўстымі шторамі рэкамендуецца закрываць аконныя праёмы ці балконныя дзверы толькі ўвечары.

## Я ў пажарнікі пайшоў бы...

***Паважаны «Пытальнік»! Я заканчваю адзінаццаты клас і хацеў бы далей заняцца пажарнай справай. Ці не маглі б вы расказаць пра навучальныя ўстановы, што рыхтуюць пажарных?***

**Дзмітрый НОВІК,** *Мінская вобл.*

Прыкладна за два месяцы любая ваенна-пажарная часць правядзе з вамі першапачатковую падрыхтоўку: індывідуальную, курсавую, стажыраванне і кваліфікацыйныя выпрабаванні. Звяртацца туды вы можаце ўжо пачынаючы са студзеня па месцы жыхарства. Сярэднюю спецыяльную адукацыю вам дасць каледж пры лётна-тэхнічным вучылішчы ў Мінску і Салігорскі горна-хімічны тэхнікум, а вышэйшую — Мінскае вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча. Конкурс у мінулым годзе складаў да 4-5 чалавек на месца, перад паступленнем неабходна прайсці медыцынскую камісію, спецыяльную праверку (сваякоў). Першы і другі курсы жывуць звычайна на казарменным рэжыме, старэйшыя могуць выбіраць месца жыхарства самі.

## Ільготы чарнобыльцам-ліквідатарам

***Якімі льготамі карыстаюцца чарнобыльцы-ліквідатары па артыкулу 19?***

**МАСКАЛЁЎ У. П.,** *Шклоўскі раён.*

***Чаму ліквідатары, якія пражываюць у дзяржаўных кватэрах, карыстаюцца льготамі па камунальных паслугах, а тыя, хто жыве ў прыватных дамах, плацяць поўнасцю?***

**Група чытачоў.**

Чарнобыльцы-ліквідатары, ільготнікі па артыкулу 19, маюць наступныя льготы:

— матэрыяльная дапамога па месцы работы ў памеры 3 мінімальных заробкаў;

— адпачынак на працягу 14 каляндарных дзён;

— пуцёўка на санаторнае лячэнне (папярэдне неабходна ўзяць заключэнне ўрача, які вызначыць, санаторый ці дом адпачынку вам патрэбен. Калі гэтай пуцёўкай вы не скарысталіся, у канцы года яе кошт вяртаецца вам у выканкоме па месцы жыхарства).

Пры аплаце за камунальныя паслугі чарнобыльцы-ліквідатары маюць 50-працэнтную скідку. Наконт размежавання на ўладальнікаў дзяржаўных кватэр і прыватных дамоў у законе нічога не сказана, раім вам удакладніць гэта па месцы жыхарства. Увогуле, пры ўзнікненні падобных пытанняў існуе шмат індывідуальных нюансаў, якія можна вырашыць толькі на месцы.

## Выпускнікі курсаў пры паступленні ў ВНУ перавag не маюць

***Зараз шмат дзе адкрыты курсы бухгалтараў. Ці маюць выпускнікі гэтых курсаў якую-небудзь перавагу пры паступленні ў ВНУ? І якія ВНУ рыхтуюць бухгалтараў завочна?***

**З павагай Алёна КІРКО,** *г. Слуцк.*

Існуюць агульныя правілы прыёму ў ВНУ Беларусі, на аснове якіх кожная ВНУ выпрацоўвае свае. Іх вы можаце ўдакладніць у «Даведніку для тых, хто паступае ў ВНУ» за сёлетні год — будучы да друку яшчэ толькі рыхтуецца. Пры прыёме на эканамічныя спецыяльнасці льготы прадастаўляюцца, як правіла, абітурыентам з адпаведнай сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Што датычыцца бухгалтарскіх курсаў, то выпускнікі іх маюць пэўную перавагу ў плане падрыхтоўкі, але прыём іх ажыццяўляецца звычайна на агульных умовах. Завочныя ж аддзяленні існуюць амаль ва ўсіх эканамічных ВНУ.

## Калі ласка, заплаціце за аўтастаянку...

***Быў вельмі здзіўлены, калі ў г. Маладзечне з мяне запатрабавалі плату за паркоўку аўтамашыны. Ці мае мясцовая ўлада на гэта права?***

**Ж. МІКЛІС,** *Ашмянскі раён.*

*Адказвае старшыня Маладзечанскага гарадскога выканаўчага камітэта С. ТАТАРЫНОВІЧ:*

— Паведамляем, што выкарыстоўваючы правa, дадзенае Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» і ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета ад 29.06.93 г. № 2455-XII «Аб часовым парадку прымянення мясцовых падаткаў і збораў у Рэспубліцы Беларусь», Маладзечанскі гарвыканком рашэннем ад 31.07.95 г. № 112 увёў плату за паркаванне аўтатранспарту. Спагнанне збору вядзецца за ўезд на вул. Б. Хмяльніцкага і вул. Л. Талстога ў памеры 5 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, які накіроўваецца ў даход гарадскога бюджэту і выкарыстоўваецца на ўтрыманне горада.

## Літоўская мяжа на святы «на замку»

***У мінулыя гады на Новы год, на Вялікдзень і на Каляды, Дзяды Літва згаджалася спрасціць памежны рэжым. Ці атрымаецца на гэты раз без візы з'ездзіць у Вільнюс да сваякоў?***

**А. САКОВІЧ,** *Ашмянскі раён.*

Як нам паведамілі ў літоўскім пасольстве, ніякіх змен у рэжыме перасячэння мяжы ў дні святаў не прадугледжваецца, таму, на вялікі жаль, сустрэчу са сваякамі прыйдзецца адкласці.

У звычайным парадку літоўскія візы афармляюцца ў Мінску ў пасольстве па запрашэнню з літоўскага боку. Пры наяўнасці запрашэння аднаразовая віза будзе каштаваць 20 долараў. Калі вы хочаце паспець у Вільнюс акурат на святы, то за тэрміновую прыйдзецца выкладзець на дзесяць долараў больш. Роўна столькі ж, 30 долараў, каштуе шматразовая віза, якая выдаецца пры наяўнасці пакета дадатковых дакументаў.

Калі вы не маеце магчымасці атрымаць запрашэнне, звяртайцеся ў беларускія турфірмы. Але ў гэтым выпадку кошт разавай візы ўзнімецца да 30-40 долараў.

## Чаму мне не выплацілі грашовай дапамогі?

***Хацелася б ведаць, чаму мяне абышлі і як пенсіянерцы не выдалі грашовай дапамогі?***

**В. ШКАДЗЮК,** *г. Драгічын.*

*Гэтае пытанне старшыня Драгічынскага райвыканкома С. МАМАЦЮК растлумачыў так:*

— Заява вашай чытачкі вывучалася ў аддзеле сацыяльнай абароны. Было ўстаноўлена, што яна да катэгорыі адзінокіх грамадзян не адносіцца: акрамя мужа (інвалід II групы вайны) ёсць двое працаздольных дзяцей.

А, згодна з распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 21.08.96 г. № 252 рп, аднaчасовая грашовая дапамога аказвалася адзінокім непрацуючым пенсіянерам і інвалідам, якія атрымліваюць пенсіі менш за 400 тысяч рублёў і не маюць іншых крыніц даходу.

Таму гэтай грамадзянцы было адмоўлена ў матэрыяльнай дапамозе.

## Кожнаму блізняці -- па букету!

***Дарагі «Пытальнік»! Падкажы: кветкі з нагоды нараджэння дзіцяці маладой маці дорыць толькі муж? А можа існуе якая-небудзь традыцыя, звязаная з выбарам букета?***

**Людміла КАСЦЮКОВІЧ,** *г. Мядзел.*

Маладой маці з нагоды нараджэння дзіцяці ў знак любові і шанавання самыя прыгожыя кветкі дораць усе, хто пажадае.

Пры нараджэнні дзяўчынкі прынята дарыць ружовыя і чырвоныя кветкі (напрыклад, ружы ці фрэзіі), пры нараджэнні хлопчыка -- сінія ці фіялетавыя кветкі (фіялкі, незабудкі, пахучы гарошак), а пры нараджэнні блізнят -- два аднолькавыя букеты. Але не трэба забываць, што такія кветкі, як бэз, ландышы, гваздзікі, здольны выклікаць галаўны боль.

На агледзіны таксама прынята дарыць кветкі. Галоўнае патрабаванне -- яны павінны быць вытанчанай формы і пяшчотнай афарбоўкі. Падыдуць усе дробныя кветкі пастэльных тонаў і нават галінкі яблыні ці вішні, калі яны цвітуць.

***Матэрыялы «Пытальніка» падрыхтавалі: Іван БРАЛКА, Алесь ВАРЫКІШ, Надзея НІКАЛАЕВА, Сяргей РАСОЛЬКА, Яна САВІЦКАЯ.***

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Як галоўны бухгалтар «абчысціла» сваю бальніцу на сотні мільёнаў рублёў

**Агульнавядома, у якім гаротным стане знаходзіцца цяпер наша медыцына. Амаль паўсюдна катастрафічна не хапае грошай на лекі, харчаванне хворых, разлікі з энергетыкамі. Але, аказваецца, нават у такой сітуацыі ёсць чым пажывіцца аферыстам. Ды яшчэ як! Украсці дзесяць працэнтаў гадавога бюджэту бальніцы — гэта, згадзіцеся, нешта...**

Галоўны бухгалтар бальніцы Д. працавала на гэтай пасадзе 13 гадоў. Па словах галоўнага ўрача, апраналася яна вельмі сціпла, звярталася ў прафком па матэрыяльную дапамогу і моцна пакрыўдзілася, калі ёй далі не 50, а 30 працэнтаў надбаўкі да службовага акладу. Што ж датычыцца прафесіянальных якасцей Д., дык сур'ёзных прэтэнзій да яе з боку і адміністрацыі медустановы, і ведамаснага кантролю не ўзнікала.

Не стала выключэннем і апошняя планавая рэвізія з Гродзенскага абласнога ўпраўлення аховы здароўя па выніках фінансавай дзейнасці бальніцы за перыяд са жніўня 1993-га па жнівень 1995 года. Менавіта ў гэты час крымінальны талент Д. працаваў амаль без перапынку.

Аднак ніякіх «фокусаў» у выкананні галоўнага бухгалтара правяраючыя не заўважылі. Не дапамагла ім чамусьці ні першая, ні другая катэгорыя рэвізорскага майстэрства. Як канстатавала потым кіраўніцтва абласнога ўпраўлення аховы здароўя, рэвізія была «праведзена павярхоўна, на нізкім прафесіянальным узроўні. Матэрыялы праверкі на калегіі ўпраўлення не разглядаліся, а выяўленыя нязначныя парушэнні не атрымалі належнай ацэнкі». У выніку рэвізорам аб'явілі вымову, а галоўнаму ўрачу — строгую вымову, папярэдзіўшы яго аб няпоўнай службовай адпаведнасці. З загадам азнаёмілі кіраўнікоў іншых медустаноў, каб была навука і ім.

Дарэчы, гэта навука, хутчэй за ўсё, была б адкладзена на няпэўны час, сама меней на два гады, калі чакалася наступная рэвізія. І дзе гарантыя, што і тады б нешта «ўсплыло»... Добра яшчэ, што ўмяшаліся супрацоўнікі аддзела падатковых расследаванняў Дзяржаўнай падатковай інспекцыі па г. Гродна. Яны зацікавіліся групай асоб, якія ажыццяўлялі незаконныя аперацыі праз траставыя рахункі ў банку. Сярод іх пастаянных кліентаў значылася і галоўны бухгалтар Д., якая рэгулярна пералічвала на гэтыя рахункі вялізныя сумы бюджэтных грошай. У выніку безнаяўныя рублі «ператвараліся» ў наяўнасць, прычым зялёнага колеру. Гэта валюта, само сабой, накіроўвалася зусім не на закупку замежных лекаў, а ў кішэню Д. Траставікам жа даставаліся пэўныя працэнты, у залежнасці ад маштабу здзелкі. Бакі былі задаволены.

Трэба адзначыць, што траставымі рахункамі Д. пачала карыстацца не адразу. Спачатку яна арудавала праз магазіны, дзяржаўныя і камерцыйныя. Дзесяткі мільёнаў рублёў заплаціла медустанова за мэблю, халадзільнікі, тэлевізары, відэакамеры і іншы тавар.

Але дарэмна шукаць яго ў бальнічных пакоях. Усе пакупкі, атрыманыя галоўным бухгалтарам па фіктыўных даверанасцях, чакала зусім іншае прымяненне. Сёе-тое пакідалася сабе. А большая частка тавару ішла на продаж, каб, у прыватнасці, «назапасіць» грошай на паляпшэнне жыллёвых умоў дзецям бухгалтара. Потым, калі Д. набралася вопыту, стала відавочна, што абкрадаць медустанову зручней менавіта праз траставыя рахункі, паколькі, каб займець «баксы», не трэба звязвацца з таварам.

Увогуле, матэрыяльныя страты, якія панесла бальніца ў выніку дзейнасці свайго галоўбуха, складаюць 756,5 мільёна рублёў. Гэта як мінімум. З улікам жа сённяшніх цэн гэта сума падскочыць вельмі і вельмі значна.

Адкуль жа «растуць ногі» ва ўсіх афер? Аказваецца, галоўны ўрач, давяраючы Д., пакідаў у яе распараджэнні замацаваныя сваім подпісам чыстыя бланкі плацежных дакументаў. Гэта, дарэчы, практыкуюць многія кіраўнікі на той выпадак, калі самі яны, напрыклад, у камандзіроўцы, а пэўная фінансавая аперацыя чакаць не можа. Д. і не чакала. А потым падатковыя органы запатрабавалі копіі дагавораў на ўжо аплачаныя бальніцай работы. Так і не прыгадаў галоўны ўрач, калі ж гэта ён заключаў гэтыя дагаворы...

Застаецца дадаць, што былы галоўбух бальніцы не стала чакаць, пакуль яе запросяць у турэмную камеру, а «зрабіла ногі» ў невядомым напрамку. Можна дапусціць, што фінансава яна забяспечана нядрэнна. Але ці добра ёй спіцца?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*Мікалай ПАЦКЕВІЧ:*

# «Ёсць пэўныя перадумовы для стабілізацыі прамысловасці сталіцы. Цяпер важна замацаваць дасягнутае»

**Размовы пра зацяжны крызіс у эканоміцы, здаецца, нагналі аскому. Разам з тым ад рэалій жыцця нікуды не дзенешся: сёння ўсім цяжка. Не абмінула гэтая навала і сталіцу рэспублікі. Больш таго, па мінчанах крызіс ударыў з найбольшай сілай, бо тут сканцэнтраваны самыя буйныя прадпрыемствы, для якіх разрыў традыцыйных эканамічных сувязей аказаўся вельмі балючым. Да таго ж тут шмат сканцэнтравана «абаронкі». Словам, куды ні кінь...**

**І ўсё ж вынікі работы прамысловасці сталіцы ў гэтым годзе ўсяляюць пэўны аптымізм. Ва ўсякім разе, няма таго катастрафічнага спаду вытворчасці, які быў характэрны для апошніх гадоў. А многія вытворчыя калектывы не толькі змаглі стабілізаваць абстаноўку, а нават і дабіцца адчувальных зрухаў у бок нарошчвання вытворчасці. Радуе і тое, што паступова змяншаюцца і таварныя запасы. А вось як і за кошт чаго адбываюцца ўсе гэтыя пазітыўныя змены — наша гутарка з намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкома Мікалаем ПАЦКЕВІЧАМ, які курыруе пытанні эканомікі.**

—Як ні цяжка прыходзіцца сёння, але ўсё ж, на маю думку, ніжні рубеж крызісу, здаецца, ужо пройдзены, — з аптымізмам зазначае Мікалай Ермалаевіч. — Паказчык аб'ёму вытворчасці за 11 месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 99,3 працэнта. І гэта нягледзячы на прастой флагмана сталічнай прамысловасці — МАЗа, прадукцыя якога займае недзе 15 працэнтаў ад агульнага аб'ёму вытворчасці. Прычым прастоі дапушчаны не па віне мінчан: нечакана забаставалі маторабудаўнікі Тутаеўскага завода, што ў Яраслаўскай вобласці, якія пастаўляюць маторы для «МАЗаў». Сёлета нашы аўтамабілебудаўнікі заключылі дагавор з яраслаўцамі на пастаўку ў Мінск навейшых рухавікоў. Аснастка імі мінскіх аўтамабіляў зробіць іх канкурэнтаздольнымі як у блізкім, так і ў далёкім замежжы. А ўвогуле, калі на першае студзеня гэтага года ў сталіцы налічвалася 138 прадпрыемстваў, якія зменшылі аб'ёмы вытворчасці, то ўжо ў верасні такіх засталося 71. Растуць і аб'ёмы рэалізацыі, а гэта значыць, што менш сталі працаваць на склад.

Сярод тых, хто няўхільна нарошчвае вытворчыя магутнасці, — аб'яднанне «Атлант». Мінскія халадзільнікі ахвотна купляюць у многіх краінах свету. А ўсё таму, што атлантаўцы своечасова адгукаюцца на запатрабаванні рынку, выпрабляюць такія апараты, якія і па дызайну, і па сваіх эканамічных вартасцях не ўступаюць сусветным аналагам. І па цане яны канкурэнтаздольныя. Выключна за свае ўласныя сродкі, амаль без крэдытаў, змаглі пераабсталяваць вытворчасць і працаўнікі адкрытага акцыянернага таварыства «Керамін». Дарэчы, вось прыклад разумнага раздзяржаўлівання вытворчасці, прыватызацыі. Ва ўмовах вострай канкурэнцыі керамінаўцы ўпэўнена заваёўваюць новыя рынкі ў Расіі, Прыбалтыцы, Польшчы, Германіі, Аўстрыі... Тут смела ідуць па шляху тэхнічнага прагрэсу, займаюцца як след маркетынгам, словам, трымаюць руку на пульсе рыначнай эканомікі. Або ўзяць да прыкладу такое прадпрыемства, як «Белкамунмаш». Тут змаглі вырашыць справу, аб якой нават раней і марыць не маглі: за кароткі час наладзілі вытворчасць тралейбусаў, якім няма роўных у краінах СНД. Ужо цяпер значную частку ўсіх выпрабленых «Белкамунмашам» тралейбусаў ахвотна купляе Расія. І ў Маскве бегаюць тралейбусы, выраблены мінскімі ўмельцамі. Трэба зазначыць, што яны на 30 працэнтаў больш энергазбарагальныя, чым расійскія.

**— Апошнім часам Мінск пачаў выходзіць на прамы гандаль з многімі расійскімі рэгіёнамі. Што канкрэтна гэта дае эканоміцы сталіцы?**

— Па дамоўленасці з адміністрацыяй Пскоўскай вобласці не так даўно правялі аперацыю «Караван». У чым яе сутнасць? Калону з 15 аўтамашын загрузілі таварамі, выпрабленымі на сталічных прадпрыемствах, і накіравалі ў Пскоў. І трэба



зазначыць, што ўсе яны былі там раскуплены. У сваю чаргу і пскавічы прапанавалі нам свае вырабы, сыравіну. Цесныя адносіны наладжваюцца паміж Мінскам і Мурманскай вобласцю. А нядаўна пры падтрымцы адміністрацыі Чыцінскай вобласці стварылі аптовае прадпрыемства па пастаўцы туды і ў многія іншыя рэгіёны Расіі нашых тавараў. Тут двайная выгада: расіяне атрымаюць магчымасць набыць высакаякасныя беларускія тавары, а мы ў сваю чаргу — паўней загрузіць свае вытворчыя магутнасці. Да таго ж з'явіцца магчымасць напрамую, без пасрэднікаў, выходзіць на расійскі рынак, што дабратворна адаб'ецца на канкурэнтаздольнасці нашай прадукцыі. Мяркую, што гэты вопыт будзе карысным і ў цэлым для рэспублікі.

**— Стан эканомікі развітых краін у немалой ступені характарызуецца тэмпамі будаўніцтва. Асабліва гэта датычыцца ўзвядзення жылля. У свой час Заходняя Германія ў многім дзякуючы высокім тэмпам жыллёвага будаўніцтва, стварэнню рынку жылля змагла значна ўмацаваць сваю эканоміку. Менавіта на канец 50-х — пачатак 60-х прыпадае найбольшы паказчык увядзення ў эксплуатацыю кватэр. А што ў Мінску?**

— Калі летась у горадзе было ўведзена ў эксплуатацыю 294 тысячы квадратных метраў жылля, то ўжо сёлета будзе каля 370 тысяч. І хоць гэтаму паказчыку яшчэ далёка да тых рубяжоў, што былі напрыканцы дзевяностых гадоў, ёсць падставы сцвярджаць, што і тут дасягнуты пэўныя зрухі. Мяркую, што ў плане актывізацыі жыллёвага будаўніцтва сваю станоўчую ролю адыграе і ўказ Прэзідэнта аб аказанні дапамогі маладым сем'ям у выдзяленні льготных крэдытаў на будаўніцтва жылля. Цяпер райвыканкомы завяршаюць афармленне неабходных дакументаў па пастаноўцы на ўлік гэтай катэгорыі мінчан.

**— Сёлета ў сталіцы рэспублікі стала ўкараняцца вэксальная форма разлікаў. І якія ж вынікі эксперыменту?**

— Сёння праблема хранічных неплацяжоў вельмі балюча б'е па ўсяму народнагаспадарчаму комплексу. Неатрыманне аплаты за адгружаную прадукцыю прымушае прадпрыемствы згортваць вытворчую праграму. У выніку — затрымкі з выдачай заработнай платы, ненапаўненне бюджэту, што ў сваю чаргу адмоўна адбіваецца на вырашэнні сацыяльных праграм. Словам, ланцуговая рэакцыя. І якое ж выйсце?

У многіх развітых краінах камерцыйны крэдыт звычайна афармляецца таварнымі вэксалямі. З улікам адпрацаванай сістэмы ўліку вэксаляў камерцыйнымі банкамі і наяўнасці адпаведных гарантый, страхавання рызыкі робяць гэтыя каштоўныя паперы надзейнымі і ліквіднымі плацежнымі сродкамі. Вядома, у нашай краіне падобная практыка вэксальных разлікаў толькі на стадыі станаўлення, не ўсё прадумана, няма адпаведных гарантый. І ўсё ж Мінскі гарвыканком 18 студзеня прыняў рашэнне «Аб укараненні сістэмы вэксальных разлікаў на тэрыторыі горада». А напярэдадні мы прааналізавалі вопыт расійскіх рэгіёнаў, дзе гэта сістэма ўжо працуе і дае неблагія вынікі. У распрацоўцы праекта ўдзельнічалі спецыялісты Міністэрства фінансаў, Мінэканомікі, Міністэрства юстыцыі, Нацыянальнага банка і Вышэйшага гаспадарчага суда. Зазначу, што перад Мінгарвыканкомам стаяла няпростая задача — зрабіць вэксаль надзейным і ліквідным плацежным сродкам. І яна цалкам была вырашана. Ужо на 25 снежня ў развязцы неплацяжоў удалося выйсці на рубеж 1,4 трыльёна рублёў. Толькі ў Мінску было выпушчана ў абарачэнне 3450 вэксаляў на 113 мільярдаў рублёў. Росту папулярнасці новага віду разлікаў садзейнічае, па-першае, таварны характар вэксаля. Ён выпісваецца за пастаўленыя тавары, выкананыя работы, аказаныя паслугі. Да таго ж, пры выпуску вэксаля прадпрыемства плануе яго пагашэнне сваёй прадукцыяй.

Важную ролю мае і адміністрацыйны фактар. Каб вэксальнае абарачэнне вырашала пастаўленыя задачы ва ўмовах неразвітога рынку каштоўных папер, трэба пастаянна ажыццяўляць кантроль за рухам вэксаля. Гэтую функцыю па рашэнню выканкома ажыццяўляе спецыяльная камісія па ўдасканаленню плацяжоў і разлікаў, у складзе якой прадстаўнікі Мінфіна, Мінэканомікі, Нацбанка і інш. Камісія займаецца зборам інфармацыі ад суб'ектаў гаспадарання аб крэдыторскай і дэбіторскай запазычанасці, аналізуе прычыны запазычанасці і вызначае шляхі іх змяншэння, кантралюе ажыццяўленне вэксальных разлікаў...

На пасяджэнні Камісіі па праблемах неплацяжоў пры Кабінеце Міністраў былі прааналізаваны вынікі работы сістэмы вэксальных разлікаў у Мінску за першы квартал. І ўжо ў маі рашэнні аб развіцці вэксальнай сістэмы разлікаў услед за намі прынялі Брэсцкі, Гомельскі і Магілёўскі, у чэрвені — Мінскі, а ў кастрычніку — Віцебскі аблвыканкомы.

А ўсяго ў рэспубліцы па стану на 25 снежня ў вэксальных разліках прынялі ўдзел 1600 прадпрыемстваў і арганізацый на суму больш як 2,2 трыльёна рублёў.

Словам, аналізуючы вынікі гаспадарчай дзейнасці, заўважаеш, што ёсць пэўныя перадумовы для стабілізацыі ў прамысловасці сталіцы. Цяпер важна замацаваць дасягнутае. У той жа час асобныя раёны ўжо не толькі пераадолелі адставанне, але і зрабілі значны крок наперад. У Маскоўскім раёне, напрыклад, мінусуюць толькі 5 працэнтаў прадпрыемстваў. Пераадолеў адставанне і Савецкі раён сталіцы, дзе многія прамысловыя прадпрыемствы ўпэўнена набіраюць абароты. З апераджальнымі тэмпамі працуюць Цэнтральны, Ленінскі, Першамайскі і Фрунзенскі раёны.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯ: ЧАС ПАДВОДЗІЦЬ ВЫНІКІ

**Падыходзіць да завяршэння (па аб'яўленых тэрмінах) перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання. Не будзем згадваць пра мэтазгоднасць яе (пра гэта сказана ўжо дастаткова), а найперш высветлім: якой актыўнасцю яна адзначана, што мы маем у выніку?**

Варта ўжо адразу зазначыць: відаць, нават самыя песімістычныя прагнозы, якія рабіліся раней, трэба прызнаць сёння аптымістычнымі. Можна меркаваць, на перарэгістрацыю суб'екты яўна не паспяшаліся ці, па агульнай для ўсіх нас звычцы, усё пакінулі на апошні дзень. А хутчэй за ўсё, у першую чаргу трэба гаварыць аб тым, што, як і папярэджвалі многія на самым пачатку, для перарэгістрацыі былі ўстаноўлены нерэальныя тэрміны.

Звернемся да лічбаў, якімі на канец мінулага—пачатак цяперашняга тыдня валодалі ў абласных саюзах прадпрымальнікаў або ў аддзелах выканкомаў, што займаюцца пытаннямі прыватызацыі і прадпрымальніцтва.

Па Мінску з 36,8 тысячы юрыдычных асоб (на 19 снежня) перарэгістравана 6375 і з 60 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы (на 17 снежня) перарэгістравана (разам з нанава створанымі суб'ектамі) каля 12 тысяч. Па Мінскай вобласці з 8 з паловай тысяч юрыдычных асоб перарэгістравана 1967 (як удакладнілі ў аблвыканкоме, у гэту колькасць уваходзяць і нанава ўтвораныя юрыдычныя асобы) і з 20 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы — каля 5 тысяч.

Па Брэсту і Брэсцкай вобласці перарэгістравана (даныя на 12 снежня) 569 юрыдычных асоб, або каля 7 працэнтаў, і каля 7 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы — прыкладна 27 працэнтаў.

Па Віцебску і Віцебскай вобласці з 8 з паловай тысяч юрыдычных асоб прайшлі перарэгістрацыю каля 1200—1300 і з 25 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы — каля 6 тысяч.

Магілёў: колькасць юрыдычных асоб складала больш як 3800, прадпрымальнікаў — больш як 7700, з іх прайшлі перарэгістрацыю, адпаведна, 32 і 41 працэнт.

Гомельская вобласць (у тым ліку Гомель): колькасць юрыдычных асоб складала прыкладна 7700, прадпрымальнікаў — каля 15 тысяч. Прайшлі перарэгістрацыю, адпаведна, 1340 і 3450.

Гродзенская вобласць (разам з Гродна): перарэгістравана каля 10 працэнтаў з 10 тысяч юрыдычных асоб і 15—20 працэнтаў з 20 тысяч прадпрымальнікаў.

Такім чынам, ужо па гэтых даных, якія не вызначаюцца абсалютнай дакладнасцю (ва ўсіх абласцях у гэтых даных «сядзіць» і колькасць нанава ўтвораных суб'ектаў; гэтыя даныя, да таго ж, і істотна мяняюцца кожны дзень, асабліва цяпер, у апошнія дні перарэгістрацыі), тым не менш, можна скласці пэўную карціну. Можна меркаваць, што большая частка юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы застанецца за бортам перарэгістрацыі. Факт далёка не ўцешны. Выкрасліць нават частку суб'ектаў са спіса — г. зн. у першую чаргу выключыць частку падаткаплацельшчыкаў. У сувязі з гэтым варта прывесці наступныя даныя па Мінску, якія прадаставілі ў гарвыканкоме. За 9 месяцаў ад прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці паступіла 2 трыльёны рублёў падаткаў, або 35,8 працэнта ад агульнай сумы, прычым ад чыста прыватных структур і прадпрымальнікаў паступіла 21,6 працэнта падаткаў. Аднак падаткі — гэта яшчэ далёка не ўсё. Яшчэ важней, відаць, тое, што людзі ў гэтых структурах маюць сваю справу, занятак, не стаяць у чэргах на «біржах» па працаўладкаванню (хоць, як вядома, многія з іх маюць і яшчэ адно месца працы). У Мінску ў недзяржаўных формах уласнасці занята больш за 200 тысяч людзей. Яны «кормяцца» ў іх самі, кормяць свае сем'і. Відавочна, што сама ідэя перарэгістрацыі ўжо з самага пачатку была звязана з тым, каб, з дазволу, навесці парадак у прыватным сектары, «вычысціць», як сказалі ў адным з кабінетаў, фірмы-аднадзёнкі і г.д.

Вядома, парадак патрэбен у любой справе. Бясспрэчна, што немалы «ўклад» у агульную карціну вынікаў перарэгістрацыі ўнеслі і тыя ж фірмы-аднадзёнкі ці фірмы, якія толькі проста значыліся на паперы, — былі зарэгістраваны, але, магчыма, з-за шэрага прычын так і не распачалі сваю дзейнасць. Праўда, з цягам часу, зусім верагодна, маглі б распачаць, а цяпер ужо дакладна не распачнуць...

Відавочна, што адной з галоўных мэтаў перарэгістрацыі было адным махам пазбавіцца ад усіх нядобрасумленных падаткаплацельшчыкаў. Але ці не з'явяцца яны і тыя ж фірмы-аднадзёнкі ўжо заўтра? Пасля перарэгістрацыі? Відаць, усё тут павінна быць прасцей: ёсць падатковая інспекцыя, ёсць спецыяльныя падатковыя «органы», ёсць цэлы спіс строгіх мераў і санкцый — яны і павінны працаваць.

Сведчаннем таго, што перарэгістрацыя была скіравана на «навядзенне парадку» ў прыватным бізнесе, можа служыць і наступнае. Адна з галоўных умоў перарэгістрацыі — адсутнасць стратнасці ў суб'ектаў гаспадарання. Аднак калі для прыватных суб'ектаў гэта перашкода з'яўлялася цалкам адчувальнай, то для дзяржаўных была больш умоўнай. Дарэчы, у выканкомах гэтага і не хаваюць, а прама зазначаюць: дзяржаўныя стратныя прадпрыемствы ніхто не будзе чапаць. Праўда, як заўважылі ў Мінску, тут уважліва і выбіральна падыходзілі і да прыватных структур, у якіх не ўсё ладзілася са справамі. Але ж менавіта выбіральна. І, напрыклад, ужо ў Гродне, як паведамілі ў яго Саюзе прадпрымальнікаў, доўгі час цягнулі з перарэгістрацыяй адной з прыватных фірмаў, якая займаецца пераважна будаўніцтвам, нават проста з-за таго, што яна аднойчы пасправачалася з мясцовымі ўладамі. Дарэчы, у тым жа Гродне, як паведамілі ў Саюзе ж прадпрымальнікаў, падчас перарэгістрацыі настойліва рэкамендавалі фірмам «канкрэтызаваць» мэты дзейнасці: запісаць дзейнасць не проста з мэтай атрымання прыбытку, а для вырашэння сацыяльных задач... Што ж, гучныя старыя лозунгі не забыты.

Яшчэ раз вернемся да прычын, якія маглі паўплываць на тое, што далёка не ўсе актыўна рушылі на перарэгістрацыю. У свой час паведамлялася, што адпаведны ўказ аб перарэгістрацыі апратэставаны ў ранейшым Вярхоўным Савеце і накіраваны ў Канстытуцыйны суд для разгляду яго на адпаведнасць законам. Гэты факт можна лічыць здабыткам гісторыі, і тыя, хто спадзяваўся на станоўчае (для сябе) рашэнне КС, хто ў выніку думаў зэканоміць час і сродкі (перарэгістрацыя патрабавала і іх), апынуліся перад неабходнасцю хутка адрэагаваць на новую сітуацыю. Цалкам верагодна, што паспелі таксама не ўсе.

Аднак што цяпер? Будзем улічваць вялізныя пераднавагоднія чэргі на перарэгістрацыю і яўнае імкненне многіх усё ж прайсці яе. Відавочна, што адна з асноўных і надзвычай прагматычных мэтаў дзяржавы — захаванне падаткаплацельшчыка. Гэта не проста жэст нейчай добрай волі, а суровая неабходнасць... Пры тых абставінах, якія склаліся, крайне неабходна прадоўжыць тэрміны перарэгістрацыі. Аб гэтым гаварылі многія субяседнікі, якія непасрэдна займаюцца пытаннямі прадпрымальніцтва і той жа перарэгістрацыі. Прынамсі здаецца, што падобная ідэя можа матэрыялізавацца: па некаторых звестках, гэты тэрмін перарэгістрацыі можа быць прадоўжаны да ліпеня наступнага года. Калі такое рашэнне і выспее, пры гэтым было б крайне надуманым абстаўляць перарэгістрацыю ўжо ў новым тэрміне нейкімі новымі, больш жорсткімі ўмовамі. А такая верагоднасць таксама існуе.

І ў заключэнне наступнае: Палата прадстаўнікоў у сваім парадку работы пазначыла ўнесці змяненні ў Закон аб прадпрыемствах. нельга выключаць, што суб'екты будуць пастаўлены перад неабходнасцю ўнесці пэўныя змяненні ў свае статуты. У такім разе ім зноў давядзецца траціць час і сродкі.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# НАКРЫЦЬ СВЯТОЧНЫ СТОЛ

**Новы год, як вядома, адносіцца да тых святаў, якія ў славян прынята сустракаць належным чынам: весела, з добрым сталом, шматлікімі гасцямі. Нездарма ж у народзе кажуць: як Новы год сустрэнеш, так яго і правядзеш. Праўда, апошнім часам гэтая «аксіёма» страціла сваю прыцягальнасць, бо, як сведчыць жыццё, у нас, на жаль, вельмі мала залежыць ад традыцый і звычаяў.**

З кожным годам павялічваюцца цэны, не хапае таго, другога — тут не да застолля — проста выжыць бы. І ўсё ж... Напэўна, святы на тое і існуюць, каб хоць бы на нейкі час можна было забыцца пра ўсё благое ў жыцці, адчуць сябе хаця б на некалькі імгненняў шчаслівым чалавекам. Як бы цяжка ні было, у такія моманты беларусы заўсёды загадзя рыхтаваліся да свята, прычым гэта датычылася не толькі страў, але і нейкага ўзнёслага настрою, які быў пранізаны надзеяй на лепшае ў будучым годзе. Якім будзе наступны год і як мы яго сустрэнем — сказаць зараз немагчыма. Будзем спадзявацца, што ён будзе лепшы за папярэдні, бо зараз нават святочны стол далёка не кожнаму па кішэні...

Напрыклад, як можна сустрэць Новы год у кампаніі чатырох дарослых чалавек пры ўмове іх няхай і не звышвялікіх, але ўсё ж неблагіх стабільных заробкаў? Уявіце, што муж з жонкай прымаюць у сябе такую ж маладую пару. Бутэльку шампанскага (52 тысячы рублёў, калі паспелі запасціся загадзя) і гарэлкі (амаль 37 тысяч) трэба паставіць на стол як піць даць. Добрую курыцу на Камароўцы ўзяць (не «сінюю ж птушку» з магазіна) — яшчэ тысяч 60. Зразумела, на ўсю святочную ноч гэтага будзе мала, таму прыйдзецца купіць шпроты (15—16 тысяч), батон сухой каўбасы (яшчэ 70—80 тысяч), кавалак вэнджанай ялавічыны (40—50 тысяч), гарошак (12—15 тысяч), некалькі пакетаў маянэзу (каля 20 тысяч). У розныя салаты спатрэбіцца як мінімум дзесятак курыных яек (16 тысяч — у магазіне, 18 — на базары), не абысціся і без селядцоў (27—32 тысячы рублёў за кілаграм). Смятана, калі пашанцуе яе знайсці, «пацягне» дзесьці на 10—12 тысяч, кавалачак сыру таксама хацелася б узяць (20—25 тысяч дадаткова). Розная драбяза (хлеб, батон, які-небудзь сок або напой, па бутэльцы піва мужчынам на раніцу) выцягне з кішэні яшчэ тысяч 40—50.

Пра бульбу, капусту, агуркі, буракі, моркву, цыбулю не кажу — будзем лічыць, што гэта было загадзя прывезена з вёскі ад бацькоў. Яшчэ бутэльку, агародніну (яблыкі, апельсіны, бананы ці яшчэ што), цукеркі або торт прынясуць з сабой госці. Алей, тлушч, якія-небудзь кансервы ў салаты таксама знойдуцца дома. Стравы стравамі, але стол таксама трэба ўпрыгожыць свечкамі (тысяч 20 за некалькі просценькіх штук), я ўжо не кажу пра ёлку (нават маленькая абыдзецца ў 10 тысяч) і цацкі (дай Бог, каб знайшліся таксама дома, бо іх кошт не з малых).

Вось і атрымліваецца, што трэба вылажыць (калі браць па мінімуму і пераважна цэны ў дзяржгандлі) 350—420 тысяч рублёў — цэлую пенсію, або заробак даяркі ў калгасе. З аднаго боку, можа і няшмат для тых, хто мае грошы, з другога — нават гэтая сума ўяўляецца сёння недасягальнай для многіх з нас. Якія там далікатэсы, была б бульба ды капуста, кавалак каўбасы на стол, няхай і святочны. Змрочна, спадарства... Таму сапраўды няхай надыходзячы год будзе значна лепшым за сёлетні і каб наступнае свята мог прыстойна сустрэць кожны з нас. З надыходзячым!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*УСМЕШКА МАСТАКА*





**Малюнкі Аляксандра СКРЫПКО.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншую дарагога сына Яна Віктаравіча ЛЯНЦЭВІЧА з днём нараджэння і надыходзячым Новым годам. Дай Божа табе здароўя і светлых шчаслівых дзён у жыцці.*

**Маці, в. Ліпнішкі.**

*Сардэчна віншуем дарагую дачушку і сястру Галіну ЦЯПІКІНУ з 45-годдзем. Моцнага табе здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы ад душы жадаем.*

**Тата, мама Хаванскія, браты, г. Івацэвічы.**

*Горача і сардэчна віншуем дарагую сястрычку Святлану Віктараўну АХРЭМ з 30-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, жыццёвай мудрасці, дабрабыту.*

**Брат Аляксей і яго сям'я, г. Мінск.**

*Віншуем любых унукаў з днём нараджэння: Марынку БАБАЕВУ з Сёмкава, Ванечку і Вічку МІХАЙЛОВІЧ з Мінска. Жадаю расці здаровенькімі, выдатна вучыцца, быць заўжды любімымі, нашы яснавокія зорачкі.*

**Бабуля Зіна, дзядуля Часлаў Міхайловічы, в. Лаздуны.**

*СТРАКАТАЯ МАЗАІКА*

## ЛІЧЫЦЬ СТРАШНА...

У садзе Мануэля Расады, бізнесмена з Мехіка, уладальніка сеткі буйнейшых магазінаў абутку, пражывае 168 сабак. Іх палічылі яго суседзі. Сам дон Мануэль ніколі не адважваўся гэта зрабіць, спасылаючыся на сваю кволую псіхіку: ён баіцца, што калі даведаецца дакладныя памеры сваёй псярні, яго нервы не вытрымаюць.

Збіраць сваю калматую калекцыю сеньёр Расада пачаў гадоў дзесяць назад, пасля таго, як Мехіка пачало аднаўляцца пасля моцнага землятрусу. Ён хадзіў па вуліцах горада, дзе было мноства бяздомных жывёл, і падбіраў іх, як дзед Мазай зайцоў. Цяпер два разы на тыдзень спецыяльна нанятая брыгада ветэрынараў праводзіць дыспансерызацыю сабак. Сабачыя гувернёры выводзяць барбосаў на прагулку і купаюць кожны дзень. Ноччу сабакі з бадзёрым брэхам носяцца па садзе гаспадара, а за імі бегае спецыяльна наняты чалавек і спрабуе прымусіць іх змоўкнуць. За гэта яму плацяць даволі вялікія грошы.

Суседзі Расады (тыя самыя, што падлічылі колькасць яго шумных гадаванцаў) ужо засыпалі паліцыю скаргамі. Аднак высветлілася, што ў мексіканскім заканадаўстве няма артыкула, які забараняе брахаць ноччу.

## СТАРАЯ КАЗКА НА НОВЫ МАНЕР

Прыгожую казку аб спячай прынцэсе ведаюць усе. А вось суровую быль аб тым, што за спробу перашкодзіць прынцэсе спаць можна жорстка паплаціцца, — вельмі і вельмі нямногія.

Француз польскага паходжання Лех Тома Кісялевіч таксама не ведаў. Месье Кісялевіч хацеў проста ўключыць святло над сваім крэслам на борце авіялайнера. Яму растлумачылі, што рабіць гэтага не варта, таму што ў суседнім салоне адпачывае тайская прынцэса Самсавалі. Лех Тома палічыў гэта абсурдным, нават абурыўся.

Ганарысты патомак шляхціцаў не ўлічыў аднаго: самалёт належаў тайландскай авіякампаніі і ляцеў у Токіо праз Бангкок, дзе няўдачлівага падарожніка і «павязалі». Цяпер Кісялевіч паўстане перад тайландскім судом — не самым, трэба сказаць, гуманным у свеце — па абвінавачанню ў зневажанні Яе Вялікасці: сон члена кіруючай дынастыі не менш свяшчэнны, чым парадны каралеўскі белы слон.

## БАБУЛЬКІ-РАЗБОЙНІЦЫ

Тры гады англійская крымінальная паліцыя збівалася з ног, адшукваючы няўлоўных махляроў, якія па-майстэрску падраблялі крэдытныя карткі і чэкавыя кніжкі. Тры гады аператыўнікі Скотланд-Ярда не спалі ночы, каб устанавіць асобы дзёрзкіх злачынцаў. Цаной тытанічных намаганняў брытанскіх сышчыкаў махляры затрыманы і ў хуткім часе паўстануць перад судом.

Імі аказаліся дзве паважаныя бабулі — 76-гадовая Уінфрэд Брыстоу і яе сястра, 74-гадовая Джаана Пэйн. Нікому і ў галаву не прыходзіла падазраваць ў банкаўскіх падлогах прыстойных англійскіх бабуль. Самі бабулі-разбойніцы раскайвацца ва ўчыненым не збіраюцца. Паводле іх слоў, ім яшчэ ніколі не жылося так цікава і весела.

**По старонках часопіса «Вокруг света».**



*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

## «СУПЕРМАЗ»-НЕВІДЗІМКА

**Неверагодна, але факт: на некаторых прадпрыемствах і ў арганізацыях Гомельшчыны хто-ніхто пачаў нацягваць на кабіны і кузавы вялікагрузных аўтамабіляў шапкі-невідзімкі, з-за чаго тая тэхніка бясследна знікае.**

Так, у гэтым месяцы з тэрыторыі Гомельскага лясгаса ноччу знікла аўтамашына «Урал-4320» з пагрузчыкам і прычэпам. А больш месяца назад (за адну ноч!) у вытворчым аб'яднанні «Беларусьгеалогія» — новенькі «СуперМАЗ» з паўпрычэпам і «МАЗ» з прычэпам. Больш за ўсіх у апошнім выпадку здзіўляецца штатны вартаўнік арганізацыі: трэба ж, так пільна нёс службу — і вось табе на! А можа гэта, як яго, НЛА шуткаваў?

Як бы там ні было, але ці не час ужо камунікаму даць за гэткія выкрутасы па сапраўднай шапцы? Каб не мроіліся ім шапкі-невідзімкі...

## ПАЛЯЦЕЛІ «ЗАЙЦЫ» Ў ЛАТВІЮ

**Кіраўніку Узаўскага камбіната хлебапрадуктаў Буда-Кашалёўскага раёна Ю. Няфёдаву было ад чаго біць трывогу: з разліковага рахунку прадпрыемства нібы карова языком злізала ледзь не 490 мільёнаў рублёў. Пачаў ён высвятляць, куды падзеліся «зайцы», і выявіў наступнае.**

Аказваецца, з філіяла «Аграпрамбанка» яны былі пераведзены на рахунак аднаго акцыянернага таварыства Латвіі за «выкананыя камбінату работы». А прадпрыемства ж, заявіў яго дырэктар, не заключала ніякіх дагавораў з латышамі на работы. Дык ці ўдасца вярнуць статак «зайцоў» на родныя прасторы?

## МІЛІЦЫЯ БЫЛА Ж НА ВЫШЫНІ...

Скажам адразу: калі б не ўмелыя і рашучыя дзеянні работнікаў міліцыі, злачынцы або зніклі б у невядомым напрамку, або іх затрыманне зацягнулася б на няпэўны тэрмін. Але аб усім па парадку.

На зямлю ўжо ўпалі прыцемкі, калі на скрыжаванні праспекта Касманаўтаў і вуліцы Багдановіча ў Гомелі на «КамАЗ» наляцела «Шкода». З легкавушкі выскачыў хлопец і сказаў вадзіцелю грузавіка, што пойдзе выклікаць па тэлефоне работнікаў ДАІ. Пайшоў і нібы скрозь зямлю праваліўся. А людзі, што сабраліся паглядзець на аварыю, заўважылі ў кабіне легкавушкі мужчыну, які не падаваў прызнакаў жыцця, і пазванілі ў «хуткую дапамогу» . Урачы ж канстатавалі: мужчына загінуў не ад аварыі, бо ў яго на галаве трынаццаць сечаных ран.

Прыехала міліцыя і знайшла ў кабіне прыладу забойства — сякеру. Стала зразумела, чаму знік з месца аварыі той хлопец, што пайшоў званіць у ДАІ. Пяць дзён спатрэбілася работнікам міліцыі А. Лазавому, А. Чуяшкову, М. Ганчарову і А. Тормазу, каб у Рагачоўскім раёне ўзяць «цёпленькім» забойцу — былога марскога пехацінца. Разам са сваім родзічам ён папрасіў уладальніка легкавушкі падвезці іх, а калі гаспадар яе запатрабаваў аплату, забіў яго. Родзіч пры гэтым (не вытрымалі нервы) з месца здарэння збег.

Спакусіўся на значную суму грошай і вадзіцель Жлобінскай аўтакалоны, калі на сваёй легкавушцы згадзіўся падвезці двух добра падпіўшых хлопцаў ад чыгуначнага вакзала райцэнтра ў вёску Чырвоны Бераг. У дарозе тыя нечакана запатрабавалі змяніць маршрут, што і насцярожыла вадзіцеля. Ён пільна пачаў сачыць за тым, хто знаходзіўся на заднім сядзенні. А той дастаў малаток і замахнуўся ім на шафёра, які паспеў адхіліцца ад прамога ўдару і, перахапіўшы руку злачынцы і выскачыўшы з машыны, кінуўся ўцякаць. Пасажыры дагналі яго, і пачалася валтузня. І тут гаспадару «Жыгулёў» пашанцавала. Па шашы праязджаў міліцыянер ГРАУС В. Новікаў, святло фар машыны якога і выхапіла з цемры бойку траіх мужыкоў. Уціхаміраныя і дастаўленыя ў міліцыю раней судзімы І. Р., які працаваў у адным з прыватных прадпрыемстваў, і рабочы райспажыўтаварыства В. К. прызналіся там, што хацелі завалодаць легкавушкай.

## ВОСЬ ТАКОЕ ПАЛЯВАННЕ...

Вядома, што найвышэйшым майстэрствам сярод шматлікіх аматараў дзічыны лічыцца меткі стрэл: вавёрцы — у вока, ласю — у сэрца і г. д. Каб, адным словам, спаўна можна было выкарыстаць футра ці шкуру забітага звера. Менавіта на гэта і разлічвала брыгада з трынаццаці паляўнічых, якая выехала ў лес, што знаходзіцца за вёскай Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна — страляць без прамашкі і метка.

Не можам дакладна сказаць, наколькі гэта ўдалося ў адносінах да дзічыны (ваўка, казулі, вепра і т. п.), але ў адносінах да чалавека ўдалося на ўсе сто працэнтаў. Выпадкова ці заканамерна, але ўдалося. Бо на месцы палявання быў знойдзены труп трыццацігадовага вартаўніка пазаведамаснай аховы, які быў у саставе той брыгады паляўнічых. Адметна тое, што сканаў ён ад агнястрэльнага ранення ў ... левае вока. Як нам паведамілі ў прэс-цэнтры УУС Гомельскага аблвыканкома, трагічна закончылася лясное паляванне і ў Светлагорскім раёне. Двое непрацуючых, адзін з якіх быў раней судзімы, падпільнавалі ў лясным масіве рабочага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» і, праламаўшы яму чэрап, завалодалі легкавушкай забітага. Але свой паляўнічы «трафей» злачынцам рэалізаваць не ўдалося. У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў работнікі міліцыі затрымалі іх у раёне Бабруйска. Узбуджана крымінальная справа.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 8060.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12